# Права на волю

№ 23 (47)
Сьнежань 1999

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"





## ЛЁС КРАІНЫ Ў НАШЫХ РУКАХ

10 сьнежня, у Міжнародны дзень абароны правоў чалавека, каля сотні прадстаўнікоў буйнейшых апазіцыйных партыяў і рухаў Беларусі сабраліся каля рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі з мэтаю перадаць яму свае заявы, звароты, петыцыі і лісты, у якіх выказвалася нязгода з палітыкай уладаў Беларусі і патрабаваньні аб захаваньні правоў чалавека ў краіне, вызваленьні палітвязьняў, спыненьні перасьледу іншадумцаў...

Усе падыходы да рэзідэнцыі чалавека, які ўзурпаваў уладу ў Беларусі, былі блакаваныя шэрагамі міліцыянтаў. Аднак кіраўніку Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Алесю Бяляцкаму і супрацоўніку Цэнтра Уладзіміру Падголу ўдалося прарвацца праз кардон міліцыянтаў і ўкінуць ліст да Лукашэнкі у сьпецыяльную скрынку ў будынку рэзідэнцыі *(тэкст ліста друкуецца на стар. 3)*.

Затым петыцыю Аб'яднанай грамадзянскай партыі з

*(Працяг на стар.3)*



*На здымках: 10 сьнежня каля рэзідэнцыі Лукашэнкі.*

## ХРОНІКА

***25 лістапада*** старшыню Беларускага Хельсінкскага камітэту Тацьцяну Процьку выклікалі ў галоўнае ўпраўленьне адміністратыўных будынкаў пры Упраўленьні справамі прэзідэнта РБ, дзе паведамілі пра тое, што дамова аб арэндзе камітэтам памяшканьня па адрасе Карла Лібкнехта 68-1201 будзе анулявана праз месяц. Відавочна, што беларускія ўлады незадаволеныя праваабарончай дзейнасьцю камітэту, удзелам яе кіраўніка ў Стамбульскім саміце і праведзенай у Мінску канферэнцыяй "Правы чалавека ў Беларусі. Стан і перспектывы".

***У лістападзе*** спыненая крымінальная справа ў дачыненьні да кіраўніка грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву" былога сьледчага пракуратуры Алега Воўчака, якая расьследвалася пракуратурай Маскоўскага раёну г. Мінску. А.Воўчак абвінавачваўся ў злосным хуліганстве (Арт. 201, ч.2 Крымінальнага Кодэксу РБ) за тое, што нібыта 21 ліпеня пасьля мітынгу, прысьвечанага заканчэньню 5-гадовага тэрміну прэзідэнцтва А. Лукашэнкі ўчыніў напад на супрацоўніка міліцыі. На самой справе супрацоўнікі міліцыі затрымалі А.Воўчака, даставілі ва УУС Маскоўскага раёну, дзе жорстка зьбілі (з аддзяленьня міліцыі А.Воўчака на "хуткай дапамозе" даставілі ў бальніцу. За 4 месяцы сьледства з А.Воўчакам не было праведзена ніякіх сьледчых дзеяньняў. Пасьля заканчэньня крымінальнай справы ў дачыненьні А.Воўчака, спыненая і праверка яго скаргі на дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі. А. Воўчак мяркуе абскардзіць дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі ў Рэспубліканскай пракуратуры.

*(Працяг на стар.6-7)*









# Абаронім дзяцей — абаронім Беларусь...

Падпісаньне дамовы паміж Расіяй і Беларусьсю аб стварэньні адзінай дзяржавы, пасьля нечаканае адмены "у сувязі з хваробай Ельцына", гэтаксама раптоўна было прызначанае на 8 сьнежня. Пра гэта стала вядома толькі напярэдадні. Згодна недэмакратычнаму беларускаму заканадаўству, акцыі беларускай апазіцыі ў гэты дзень маглі быць толькі адно не падрыхтаванымі загадзя.

І тым ня менш, 8 сьнежня ў 11 гадзінаў раніцы ў Мінску ў знак пратэсту супраць падпісаньня дамовы быў перакрыты праспект Францыска Скарыны. Удзельнікі акцыі стаялі з лозунгамі "Абаронім нашых дзяцей! Абаронім Беларусь!" "Ніякіх саюзаў з акупантамі". Амапаўцы выцесьнілі пікетоўшчыкаў з праезнай часткі і паўсталі жывой сьцяною уздоўж праспекту. Вячаслаў Сіўчык заявіў, што саюзная дамова — здрада нашай краіне нелегітымнага прэзідэнта А.Лукашэнкі, што большасьць грамадзянаў Беларусі супраць гэткага саюза, і заклікаў прысутных не дапусціць нацыянальнай ганьбы і выступіць з новым пратэстам — у 17 гадзінаў зноў перакрыць рух на праспекце. В.Сіўчык заклікаў заходнія дэмакратычныя ўрады выступіць гарантам незалежнасьці Беларусі.

У17.00 каля плошчы Якуба Коласа сабралася каля 200 чалавек. Праспект быў зноў перакрыты, рух транспарту спынены. Праз некалькі хвілінаў супрацоўнікі АМАПу выцесьнілі ўдзельнікаў акцыі з праезнай часткі праспекту, пры гэтым з натоўпу былі выхапленыя два чалавекі, якіх зацягнулі ў двор і моцна зьбілі. Сярод першых затрыманых быў непаўнагадовы Зьміцер Касьпяровіч, якога супрацоўнікі праваахоўных органаў білі галавой аб машыну, выбілі зуб. З.Касьпяровіч быў вымушаны зьвярнуцца па дапамогу ў шпіталь, дзе яму быў пастаўлены дыягназ "сатрасеньне мозгу".

Акцыя працягвалася на ходніках уздоўж праспекту Скарыны. Група моладзі ў знак пратэсту спаліла расійскі сьцяг. Пасьля дэманстранты рушылі з бел-чырвона-белымі сьцягамі і антыінтэграцыйнымі лозунгамі да Кастрычніцкай плошчы. Паралельна калоне дэманстрантаў рухаліся аўтобусы з амапаўцамі.

Каля цырку ўдзельнікі акцыі паспрабавалі яшчэ раз перакрыць праспект. Асобы ў цывільным адразу ж пачалі затрымліваць дэманстрантаў. Пры гэтым яны адмаўляліся прадстаўляцца. Калі супрацоўнік Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч пачаў патрабаваць, каб чалавек у цывільным паказаў сваё службовае пасьведчаньне, у адказ пачуў пагрозу: "Пойдзем, зараз я табе пакажу, хто я такі! Рыхтуйся!" В.Стэфановіч адказаў: "Кепска вас вучаць у Акадэміі міліцыі. Вы заўсёды мусіце прадстаўляцца, калі працуеце апранутымі ў цывільнае!" В.Стэфановіча схапілі і пацягнулі да машыны (нягледзячы на бэйдж назіральніка ПЦ "Вясна"), але падышлі ўдзельнікі акцыі, і супрацоўнікі міліцыі вымушаныя былі адпусьціць назіральніка.

Пасьля заканчэньня акцыі пачаліся затрыманьні, якія праводзілі ўсё тыя ж асобы ў цывільным.

Былі затрыманыя: Мікалай Раманаў, Вячаслаў Сіўчык, Славамір Адамовіч, Уладзімір Аляксандраў, Ігнат Петручук, Ірына Гурава, Сьцяпан Кульчанка. Затрыманыя правялі ноч у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку.

Таксама былі затрыманыя, але ў хуткім часе адпушчаныя: журналіст Валеры Шчукін і непаўнагадовыя Зьміцер Васьковіч, Натальля Васілевіч, Зьміцер Касьпяровіч.

В.Шчукін быў затрыманы ў 19.00. Каля рэдакцыі газеты «Народная воля» да яго кінуліся трое мужчынаў у цывільным і пачалі запіхваць у легкавы аўтамабіль. В.Шчукін стаў адбівацца і крычаць, клічучы людзей на дапамогу. Побач праходзілі дзесяць міліцыянтаў. Яны падбеглі і... сталі дапамагаць людзям у цывільным. Пры гэтым Валерыя Аляксеевіча, ганаровага сябра "Вясны", жорстка збівалі. У машыне В.Шчукіну надзелі кайданкі. У міліцыі (Савецкі РАУС) В.Шчукіну патлумачылі, што яго затрымалі дзеля высьвятленьня асобы. Пратакол аб затрыманьні В.Шчукіна міліцыянты складалі не задаючы пытаньняў, а пасьля прапанавалі падпісаць. В.Шчукін адмовіўся чытаць і падпісваць пратакол і запатрабаваў адваката... Урэшце В.Шчукіна, пратрымаўшы дзьве гадзіны ў аддзяленьні міліцыі, адпусьцілі.

Суды над затрыманымі 8 сьнежня адбыліся 9, 10, 13 і 14 сьнежня.

**Наш кар.**

***P.S.*** *8 сьнежня адбыліся акцыі пратэсту супраць падпісаньня саюзнае дамовы ў Маскве каля пасольства Беларусі. І там таксама ўсё закончылася арыштамі...*




**Мінск, 8 сьнежня, ранак і вечар...**



# Сыны за бацьку

## Магілёўскія ўлады пераследуюць вядомага праваабаронцу Сяргея Абадоўскага, прад'яўляючы сфальсіфікаваныя крымінальныя абвінавачаньні ягоным дзецям

Упершыню сын Сяргея Абадоўскага Зьміцер быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці яшчэ ў 1996 годзе па сфальсіфікаваным сьледзтвам абвінавачаньні. Цяперашняя спроба праваахоўчых органаў асудзіць яго, мае падвойную мэту — зрабіць са Зьміцера рэцыдывіста, а тым самым зьняславіць, зганьбіць рэпутацыю ягонага бацькі, вядомага праваабаронцы Сяргея Абадоўскага.

Метады сьледзтва, якія занадта відавочна-груба парушаюць закон цалкам пацьвярджаюць гэтую версію. Сёлетняй вясною Зьміцера абвінавацілі ў крадзяжы. Вобшук з прычыны "злачынства" быў праведзены праз доўгі час пасьля гэтага (толькі 20 ліпеня, у крытычны для ўладаў дзень) і не ў ягонай кватэры, а ў кватэры бацькі. Пры гэтым міліцыянты нават не спрабавалі зрабіць выгляд, што шукаюць не нібыта скрадзеныя Зьміцерам чаравікі, а адкрыта шныпарылі ў праваабарончых дакументах Сяргея Абадоўскага.

Гэтыя дзеяньні ўладаў робяцца лагічнымі і зразумелымі калі згадаць, што па хатнім адрасе С. Абадоўскага разьмешчаны і юрыдычны адрас Магілёўскага праваабарончага цэнтра, дырэктарам якога ён зьяўляецца.

Дзеля таго, каб узмацніць прад'яўленае Зьміцеру дробнае абвінавачаньне, у ліпені гэтага году яму інкрымінуюць яшчэ і згвалтаваньне. Сьледзтва праводзіцца з непрыхаванымі парушэньнямі крымінальна-працэсуальнага кодэксу, так званыя доказы зьбіраюцца супрацьзаконнымі метадамі. Рэчы на экспертызу забіраюцца без складаньня акту аб канфіскацыі, без прысутнасьці панятых. Сьледчыя дзеяньні праводзяцца без прысутнасьці абаронцы, а пры працэдуры апазнаньня, "нібыта згвалтаваная", паказвае не на Зьміцера, а на зусім пабочнага чалавека, "ахвярай" якога яна нібыта стала... У дакументах сьледзтва, якія перададзены дзеля далейшае вытворчасьці з Цэнтральнага РАУС г. Магілёва ў абласное УУС, маецца цікавае, без перабольшваньня, заключэньне: "Факту згвалтаваньня не ўстаноўлена, аднак яно (згвалтаваньне) магло быць..."

Новы этап сьледзства прынёс чарговыя грубыя парушэньні закону. Пад надуманай падставай абаронцу Сяргея Абадоўскага адхіляюць ад справы. Пакуль ён адстойвае сваё права на абарону ў пракуратурах розных узроўняў, а Зьміцер трымае ў СІЗА галадоўку, сьледчыя падрыхтавалі новае абвінавачаньне: зноў у крадзяжы, на гэты раз трохгадовае даўніны. Абвінавачаньне, як і ў першым выпадку, грунтуецца на тым, што Зьміцера нібыта бачылі з украдзенымі рэчамі ў кампаніі злодзея. Больш за тое, сам злодзей, верхавод банды, якая зьдзейсьніла некалькі дзесяткаў крадзяжоў, седзячы ў СІЗА, праз некалькі месяцаў "раптам" прыгадаў, што адзін з крадзяжоў у 1996 годзе ён зьдзейсьніў разам са Зьміцерам Абадоўскім, і цяпер зрабіў "яўку з павіннай".

Пры гэтым сьледчы адкрыта ігнаруе патрабаваньне абаронцы, адхіляючы 12 з 15 вылучаных ім хадайніцтваў, нягледзячы на тое, што 11 хадайніцтваў былі задаволеныя ранейшым сьледчым. Пасьля заканчэньня папярэдняга сьледзтва справа была перададзеная пракурору без азнаямленьня з ёю абаронцы Сяргея Абадоўскага. Нават адвакат, запрошаны сьледчым дзеля азнаямленьня з матэрыяламі справы (бяз згоды на гэта абвінавачанага З. Абадоўскага), заяўляе хадайніцтва аб спыненьні крымінальнага пераследу Зьміцера, бо сьледзтва не прадставіла доказаў ягонай віны. Пракуратура была вымушаная накіраваць справу на дарасьледваньне.

Між тым, Зьміцер Абадоўскі знаходзіцца за кратамі ўжо больш за пяць месяцаў. Усе паручальніцтвы і заявы ў суд і пракуратуру дзеля зьмяненьня яму меры стрыманьня на падпіску аб нявыезьдзе застаюцца без адказаў.

*(Працяг на стар. 5)*

# Лёс краіны ў нашых руках

*(Пачатак на стар.1)*

патрабаваньнем вызваленьня палітвязьняў, што гадамі сядзяць у СІЗА, і пошуку В. Ганчара і Ю.Захаранкі зарэгістраваў у прыёмнай адміністрацыі Лукашэнкі лідэр АГП Станіслаў Багданкевіч. Старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч і намеснік старшыні Беларускага Народнага Фронту Вячаслаў Сіўчык перадалі каля 40 петыцыяў грамадзянаў, якія пратэстуюць "супраць росту цэнаў і зьбядненьня народу, парушэньня правоў чалавека, манапалізацыі СМІ, парушэньня законаў з боку ўлады, гандлю незалежнасьцю краіны".

Затым удзельнікі акцыі сабраліся каля праспекта Скарыны, каб адзначыць 51-ю гадавіну прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека запаленымі сьвечкамі...

У гэты ж дзень, 10 сьнежня, жонкі палітвязьняў і лідэраў палітычных партый і рухаў Беларусі, тых, каго пераследуюць падчас праўленьня Лукашэнкі, перадалі свой ліст амбасадарам ЗША, Велікабрытаніі, Францыі. У гэтым лісьце, у прыватнасьці, гаворыцца: "Нашыя родныя зьнікаюць, іх забіваюць, арыштоўваюць, трымаюць у турмах, катуюць... Сотні лепшых дзяцей нашай краіны сталі палітычнымі ўцекачамі. Зьнішчаюцца палітычныя свабоды, нацыянальныя, духоўныя і культурныя каштоўнасьці, забаронена гістарычная сімволіка, дыскрэдытуецца беларуская мова. Мы ня хочам, каб лёс нашых сыноў і дачок, братоў і сясьцёр напаткаў і іншых беларусаў, якія выступаюць за дэмакратыю ў сваёй краіне. Мы не жадаем, каб дыктатарскі рэжым зьнішчыў нашую апошнюю надзею — беларускую незалежнасьць. Мы патрабуем адстаўкі А.Лукашэнкі, свабодных дэмакратычных выбараў пад міжнародным кантролем, непрызнаньня міжнароднай супольнасьцю цяперашняй дамовы.

Мы спадзяемся, што сьвет ня будзе абыякавым да беларускай трагедыі, бо тое, што адбылося ў Маскве, нагадвае Мюнхен 1938 году..."

## Ліст ад "Вясны" спадару А. Лукашэнку

Мы зьвяртаемся да вас у дзень, калі ўвесь цывілізаваны сьвет адзначае гадавіну прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Ужо доўгі тэрмін знаходзяцца ў зьняволеньні А.Клімаў, У.Кудзінаў і В.Лявонаў. Уся іх віна, на наш погляд, заключаецца ў тым, што яны сваёй дзейнасьцю імкнуліся выконваць палажэньні Канстытуцыі. Яны хацелі, каб Беларусь была еўрапейскай краінай, дзе дэмакратычныя каштоўнасьці і правы чалавека — аснова багатага і шчасьлівага жыцьця яе грамадзянаў.

Палітычныя лідэры, якія знаходзяцца ў зьняволеньні, не спалохаліся пагрозаў і шантажу, не захацелі працаваць па сфальсіфікаванай Канстытуцыі, якая дае вам неабмежаваныя правы. У тым ліку: прызначаць і здымаць судзьдзяў, прымаць на працу ў парламент дэпутатаў, пазбаўляць грамадзянаў Беларусі ўласнасьці і нават адбіраць у жонак мужоў, а ў дзяцей бацькоў, як вы зрабілі адносна жонак і дзяцей А.Клімава, У.Кудзінава і В.Лявонава.

8 верасьня, падпісаўшы з Ельцыным дамову аб стварэньні саюза з Расіяй, вы парушылі ня толькі Канстытуцыю Беларусі, але і адабралі Радзіму ў беларусаў.

Мы вырашылі гэтым лістом указаць на няправільнасьць вашых дзеяньняў.

Адумайцеся! Падумайце пра сваю будучыню, пра свой лёс!

**Рада Праваабарончага Цэнтру "Вясна"**

# "На Беларусі ідзе вынішчэньне прадпрымальнікаў як класу..."

*У Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" ад дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня КРУГАВОГА Валерыя Кадашавіча*

Зьвяртаюся да вас у сувязі з публікацыяй у "Белорусской деловой газете" матэрыялу, прысьвечанага крымінальным справам на беларускіх грамадзянаў, якія па вашым меркаваньні па сутнасьці зьяўляюцца палітычнымі. Сярод іх вы вылучаеце "перасьлед, зьвязаны з прафесійнай дзейнасьцю і грамадзянскай пазіцыяй", адносячы да іх справы Старавойтава і Лявонава. Палітычнымі зьняволенымі вы называеце і маіх калегаў па бізьнесе і Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня У.Кудзінава і А.Клімава. Хоць іх і абвінавачваюць у эканамічных злачынствах, тут я з вамі цалкам згодны, бо ў аснове гэтых справаў асабістае непрыняцьце Лукашэнкам грамадзянскай і палітычнай пазіцыі гэтых людзей. Мала таго, я лічу, што большасьць крымінальных справаў супраць прадпрымальнікаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў у Беларусі па сутнасьці палітычныя. Лукашэнка арганічна не прымае прыватны бізьнес. Калі ў часы Сталіна зьнішчалі "кулакоў" ды "нэпманаў", дык у наш час, няхай і ў трохі іншых маштабах, вынішчаецца прыватнае прадпрымальніцтва.

Хачу дапоўніць надрукаваны вамі матэрыял. Цалкам зразумела, што вы зьвяртаеце ўвагу на тыя справы, якія на слыху ў грамадзкасьці сёньня. Аднак Лукашэнка пачаў выразаньне непажаданых яму прадпрымальнікаў ня сёньня. І мая справа, як і справы Пупейкі ды іншых, таму прыклад. Ня ведаю, ці траплялі ў поле вашага зроку матэрыялы па крымінальнай справе, зьвязанай з ліквідацыяй банка "Еўрапейскі", і ў чыёй інтэрпрэтацыі, але ўсе падзеі, зьвязаныя з гэтым, з дастатковай пэўнасьцю паказваюць: гэтая справа стаіць у тым самым шэрагу, што і вышэйназваныя. Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на наступны ланцужок падзеяў.

Мая прафесійная і прадпрымальніцкая дзейнасьць з 1992 году была цесна зьвязаная з рынкавымі пераўтварэньнямі ў Беларусі. Размова ідзе пра фармаваньне рынку каштоўных папераў (дырэктар Беларускай фондавай біржы), стварэньні камерцыйных (без удзелу дзяржпрадпрыемстваў) банкаў (старшыня радаў Беларускага біржавага банку, банку "Еўрапейскі"). Пачынаючы з 1994 году я актыўна ўдзельнічаў у фармаваньні чэкавых інвестыцыйных фондаў. Па маёй ініцыятыве ў 1993 годзе брокерскія канторы БФБ заснавалі "Першы рэспубліканскі інвестыцыйны фонд" — "ПРІФ". У яго дзейнасьці (старшыня праўленьня А. Саманкоў) я прымаў самы актыўны ўдзел. Зараз усім відавочна нежаданьне Лукашэнкі хоць нешта рабіць у сферы прыватызацыі і акцыянаваньня. Але да таго, як адкрыта пра гэта аб'явіць, ён, ва ўласьцівай яму манеры і вядомымі сёньня метадамі, зьнішчыў структуры, якія фактычна ўяўлялі працэс прыватызацыі і за якімі, што было вельмі важна, стаялі тысячы людзей. Я кажу пра чэкавыя інвестыцыйныя фонды і ў першую чаргу пра "ПРІФ". Магчыма, вам невядома, але на пачатак 1995 году на акцыі ПРІФа падпісалася больш за 70 тысяч грамадзянаў Беларусі. У лютым 1995 г. на сходзе ветэранаў А.Лукашэнка ні з таго ні з сяго раптам заявіў: "у фондах акапалася сволач, і я з імі разьберуся". У хуткім часе ў ПРІФ прышла праверка Адміністрацыі прэзідэнта і Дзяржкантролю. Ніякіх парушэньняў не было знойдзена. 30 сакавіка 1995 г. прайшоў першы чэкавы аукцыён для інвестфондаў. Прайшоў дастаткова ўдала і ПРІФ выкупіў на ім больш за 60% усіх прададзеных акцыяў. На наступны дзень распараджэньнем Лукашэнкі акцыён без тлумачэньняў быў ануляваны, а ва ўсе фонды накіравалі камісіі па праверцы іх дзейнасьці, былі адазваныя ліцэнзіі фондаў.

Ужо тады бязьмежжа, з якім усё гэта рабілася, засьведчыла, што чэкавая прыватызацыя будзе пахаваная, а яе лідэры, г. зн. ПРІФ і ягонае кіраўніцтва трапляюць у шэрагі асабістых ворагаў прэзідэнта. Усе гэтыя факты ў той час дастаткова часта асьвятляліся ў прэсе. І я, і А. Саманкоў ужо тады ведалі прычыны ўсіх гэтых падзеяў і ня цешылі сябе надзеямі адносна лёсу і ПРІФа і ўсёй прыватызацыі. Супрацьстаяць гэтаму мог толькі Вярхоўны Савет, выбары ў які павінны былі адбыцца вясною 1995 г. Таму мы выставілі свае кандыдатуры ў дэпутаты ВС РБ. Нашая палітычная пазіцыя 1994-95 г.г. была цесна зьвязаная з Д.Булахавым, які, як і В.Ганчар, у канцы 1994г. адкрыта перайшоў у апазіцыю рэжыму Лукашэнкі. І гэта, натуральна, толькі "абцяжарвала" нашую віну, як людзей, фінансава падтрымліваючых непажаданых "бацьку" палітыкаў і вядучых свой бізьнес у сферы, якую ён сабраўся прыкрыць раз і назаўсёды. Тое, што я не пажаданы ўладам у якасьці дэпутата, і яна мае намер не прапусьціць мяне ў ВС, стала зразумела пасьля шэрагу публікацыяў у прэсе і ананімнай перадачы па радыё. У іх мяне аб'явілі жулікам, які ўкраў народныя грошы з банка "Еўрапейскі". Натуральна, прэзумпцыя невінаватасьці — гэта не для "бацькі" і ягоных памагатых. У сярэдзіне траўня 1995 г. банк "Еўрапейскі" аб'явіў пра сваю ліквідацыю ў сувязі з банкруцтвам. Пры гэтым кіраўніцтва банка, у адрозьненьне дарэчы, ад усіх іншых беларускіх банкаў, якія спынілі сваю дзейнасьць, з першага ж дня ліквідацыі запрасіла дзеля гэтага камісію з Нацыянальнага банку і перадало ёй усю дакументацыю. Ліквідацыяй банка займалася менавіта камісія (старшынёй яе быў Волкаў). Прычынаю банкруцтва банка стала банкруцтва фірмы, якую я ўзначальваў. Прычынай банкруцтва фірмы стала неаплочваньне Міністэрствам аховы здароўя вялікай партыі лекаў. Нават сёньня, калі прайшло столькі гадоў, я не разумею, чаму Міністэрства аховы здароўя давяло мяне да банкруцтва, чаму, нават маючы на рахунку грошы, "Белфармацыя" толькі ў жніўні 1995 г. разьлічылася канчаткова па пастаўках, якія закончыліся ў лютым.

Вяртаючыся да тэмы выбараў, хачу нагадаць, што вясною з 12 кандыдатаў у 2-х турах я перамагаў, аднак дзеля абраньня мяне дэпутатам не хапіла літаральна 50 галасоў. Несумненна адбіліся на гэтым выступленьні радыё і газетаў. Калі восеньню 1995 г. я зноў заявіў, што буду балатавацца ў Вярхоўны Савет, і стала зразумела, што, нягледзячы на "каманды" зьверху мясцовым уладам усяляк гэтаму перашкаджаць, я ўсё ж буду выбраны — вось тады ў ход пайшоў любімы прыём рэжыму. У кастрычніку 1995 г., г. зн. літаральна за два тыдні да выбараў, Генпракуратура ўзбудзіла справу "па факце ліквідацыі банка "Еўрапейскі"". Я пра гэта даведаўся з газеты "Советская Белоруссия". Там на першай паласе паведамлялася, што я ўкраў 20 мільярдаў рублёў, і пракуратура ўзбудзіла супраць мяне справу. Калі ў той жа дзень я зьвярнуўся ў пракуратуру, то там ад гэтага адмовіліся, сказалі, што справа ўзбуджана,але не супраць мяне, а проста па факце ліквідацыі банка, і што яны ў газету ніякіх матэрыялаў не давалі і не маглі даць, бо сьледзтва яшчэ не пачатае. Якім тады чынам матэрыял патрапіў на старонкі газеты ды яшчэ ў дзень узбуджэньня справы?.. Хто ініцыяваў узбуджэньне справы? Бо крэдыторы не зьвярталіся ў пракуратуру. Гэтыя пытаньні засталіся без адказу. Як і яшчэ адно: чаму справа ўзбуджаная праз шэсьць месяцаў пасьля ліквідацыі банка, калі прайшоў гаспадарчы суд, вызначыўся парадак ліквідацыі даўгоў, камісія Нацбанку і МУС закончыла праверку і не знайшла крымінальных парушэньняў? Калі прыгадаць, што матэрыялы па "злачынных дзеяньнях" кіраўніцтва ПРІФа ў "Народную газету" паступілі з Адміністрацыі прэзідэнта (гэта высьветлілася на судзе па зыску А.Саманкова), то адказ на гэтыя пытаньні будзе адзін: ініцыятыва ішла з Савету бясьпекі (пазьней гэта пацьвердзілі кампетэнтныя людзі). Была

**АД РЭДАКЦЫІ: мы друкуем гэты ліст без скарачэньняў, з нязначнымі стылёвымі папраўкамі. Мы даем мажлівасьць выказаць свае меркаваньні чалавеку, дзейнасьць якога ў Беларусі ацэньваецца далёка неадназначна. Гэта, дарэчы, бачна і з ягонага ліста, у якім ён коратка распавядае пра сваю працу. Выснова відавочная: сёньня ён не ў турме толькі таму, што ў адрозьненьне ад іншых, "своечасова зьехаў" за мяжу... Тэндэнцыю ж аўтар ліста прасочвае яскравую: з першых дзён сваёй улады "неакамуніст" А.Лукашэнка пачаў барацьбу з ненавісным яму прыватным прадпрымальніцтвам і працягвае яе па сёньня...**

аддадзеная каманда сабраць кампрамат на мяне і Саманкова, каб не прапусьціць нас у дэпутаты ВС і, урэшце рэшт, знайсьці падставу, каб пасадзіць у турму. Як мне потым патлумачылі людзі з акружэньня прэзідэнта, паколькі ўсё гэта рабілася ў межах крымінальнае справы, то яе і ўзбудзілі. Усе далейшыя падзеі цалкам пацьвердзілі гэты сцэнар.

У рамках справы былі канфіскаваныя ўся дакументацыя, пячаткі, закрытыя рахункі фірмаў, да якіх я меў нейкія адносіны. У тым ліку і дзьвух сумесных беларуска-польскіх прадпрыемстваў, якія ніяк не датычылі банка "Еўрапейскі". Іх не аддалі нават, калі я зьвярнуўся з дэпутацкім запытам да Генпракурора РБ В. Капітана. Дарэчы, і ягоная пазіцыя таксама вельмі паказальная...

Сьледчыя выклікалі на допыты, пагражалі людзям, якія нават не працавалі ў фірмах, якімі я кіраваў, аднак мелі "шчасьце" быць маімі дзелавымі партнёрамі альбо проста знаёмымі. Ад усіх патрабавалі: "дайце сьведчаньні на Кругавога". Не знайшоўшы крадзяжоў, надумаліся аб'явіць векселі фірмы каштоўнымі паперамі (у законе такога няма), і да таго ж фальшывымі, бо за імі "не было руху тавараў". Пры гэтым пастаўка на 1,4 млн. даляраў ЗША медпрэпаратаў, натуральна, была "незаўважаная". Усё гэта потым было ўжыта і да людзей, пра якіх згадваецца ў артыкуле "Вясны" ў "БДГ" (Старавойтаў, Клімаў, Кудзінаў, Лявонаў).

У Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня я цесна супрацоўнічаў з апазіцыйнай фракцыяй "Грамадзянскае дзеяньне", падпісаў заяву аб імпічменце прэзідэнту. У адрозьненьне ад многіх іншых падпісаўшых дэпутатаў (75 чалавек) я ведаў, што гэтым самым падпісаў сабе прысуд. Усе ведаюць, што на тых, хто падпісаў заяву, аказваўся прамы ўціск і пагрозы з боку прэзідэнта. Мяне і Кудзінава "апрацоўвалі" пад лозунгам — пасадзім вас і вашых блізкіх. Уладзімір Кудзінаў прыняў тады рашэньне зьехаць на Украіну і не адклікаць свой подпіс. Я ж, бачачы, што фактычна бітва прайграная пасьля падпісаньня Шарэцкім і Ціхіням вядомае дамовы, вырашыў адклікаць свой подпіс і застацца ў Беларусі. Сёньня зразумела, што Уладзімір памыліўся вярнуўшыся, а я памыліўся, калі палічыў, што адкліканьне подпісу было дастатковым. Знаходзячыся ў Палаце прадстаўнікоў (створаны Лукашэнкам "парламент" — *рэд.*) я па-ранейшаму не прымаў палітыку рэжыму ў адносінах да бізнесу і рынкавых пераўтварэньняў, а таму застаўся чалавекам, непажаданым Лукашэнку. Калі ў ВС я мог хоць неяк уплываць на рашэньні. распрацоўваць рынкавыя законы і пераконваць калегаў у іх неабходнасьці,




дык у Палаце прадстаўнікоў гэта ня мела сэнсу. Таму ў пачатку 1998 г. я адтуль пайшоў з адпаведнаю заяваю. Натуральна, варта было чакаць, што тым самым я "спускаю курок" і са сьведкі стану абвінавачаным. Што і адбылося ўрэшце...

Напрыканцы хачу адзначыць, што так ужо склалася, мы заўважаем чалавека, калі ён памёр альбо знаходзіцца ў турме. Я пра тое, што мне зразумелая вашая ўвага да маіх калегаў Клімава і Кудзінава — яны сядзяць у турме. Я — змог зьехаць за мяжу. Аднак няўжо мне таксама трэба вярнуцца і натуральна адразу ж аказацца ў турме, каб вы заўважылі, што справа дэпутата Кругавога не эканамічная, а палітычная?

З глыбокай павагай

**Валеры КРУГАВЫ**

*Варшава, 9 лістапада 1999 г.*

***P.S.*** Паколькі я закрануў у лісьце тэму зьнішчэньня прадпрымальнікаў у Беларусі як класа, хачу выказаць яшчэ колькі думак наконт гэтага.

...Разуменьне прыватнай уласнасьці як "крадзяжу" сярод кадэбістаў, пракурораў і, вядома, з боку "бацькі", прывяло да таго, што прадпрымальніку спачатку ствараюцца ўмовы, у якіх ён проста не можа працаваць, не парушаючы "законы", а потым яго саджаюць — незалежна ад таго, ёсьць дзеля гэтага прычыны ці няма. Бязьмежжа ў адносінах да прадпрымальнікаў пры ўсёй павазе да незалежнай прэсы, журналістаў, праваабаронцаў па сваіх маштабах, беззаконьню, пасьлядоўнасьці — самае масавае ў Беларусі. На жаль, міжнародныя праваабарончыя арганізацыі гэтага не разумеюць. Для іх бізнесмен і палітычна перасьледуемая група — розныя рэчы. Вам, тым, хто жыве ў гэтай краіне і бачыць гэта, мяркую, варта зьвярнуць большую ўвагу на масавыя парушэньні правоў вельмі вялікай групы грамадзянаў — ад "чаўнакоў" да банкіраў. Тут і пастаянныя забароны на рэгістрацыю, пазасудовыя працэдуры канфіскацыі тавараў, "выкуп" акцыяў у прымусовым парадку за бясцэнак (валютная біржа, Беларусьбанк), абмежаваньні на гаспадарчую дзейнасьць (па наяўнай выручцы і г. д.), і шмат іншых. А сістэматычная практыка пераўтварэньня гаспадарчых, грамадзянскіх па сутнасьці справаў у крымінальныя? Дзе, у якой яшчэ краіне можна ўбачыць узбуджэньне крымінальных справаў па банкруцтву пры адсут-насьці заяваў з боку крэдытораў?..

У свой час я выступаў супраць прыняцьця закона аб барацьбе з карупцыяй. Аднак яго прынялі. Але варта было б яго аддаць на міжнародную экспертызу. У самім законе сьцьвярджаецца пагарджаньне правамі ўласьніка весьці сваю справу, узаконьваецца пазасудовае спыненьне дзейнасьці фірмаў толькі па аператыўных дадзеных і г.д. Кожны дзень беларускай рэчаіснасьці дапаўняе гэты пералік. Ідзе масавая эміграцыя прадстаўнікоў сярэдняга бізнесу. "Буйны" бізнес ужо зьехаў, застаўся толькі "чэсны", што азначае прэзідэнцкі. Уся сістэма, пачынаючы з законаў і заканчваючы міліцыянтам на рынку, накіраваная на стварэньне прыватнаму бізнесу такіх умоваў, у якіх ён альбо сам памрэ, альбо яго пахаваюць. Пры гэтым пра правы чалавека-прадпрымальніка можна казаць толькі як пра прадмет пастаяннага парушэньня і фактычнае адсутнасьці.

# Сыны за бацьку

(Пачатак на стар.3)

Гэта далёка ня ўсе факты, але ўжо іх пералік і відавочная надуманасьць і беспадстаўнасьць абвінавачаньняў даюць дастаткова прычынаў лічыць, што сапраўднаю мэтай праваахоўных органаў зьяўляецца перасьлед не самога абвінавачанага, а ягонага бацькі Сяргея Абадоўскага, які шмат гадоў займаецца праваабарончай дзейнасьцю, і які, дарэчы, зьяўляўся найбольш актыўным сябрам Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах Прэзідэнта Беларусі, наладжаных сёлета законным парламентам краіны. Гэткая выснова пацьвярджаецца таксама тым фактам, што крымінальнаму, адміністратыўнаму і палітычнаму перасьледу ў той ці іншай форме падвяргаліся два старэйшыя сыны Сяргея Абадоўскага (Іван і Зьміцер), а цяпер разглядаецца магчымасьць прыцягненьня да адказнасьці і малодшага сына Аляксандра, пра што незнарок прагаварыўся сьледчы, які вядзе справу Зьміцера...

Гэтак падрабязна я распавёў пра сітуацыю, што склалася вакол Сяргея Абадоўскага, з мэтай, каб ад імя Магілёўскага праваабарончага цэнтру зьвярнуцца да Праваабарончага Цэнтру "Вясна" з просьбай аб дапамозе ў прафесійнай абароне Зьміцера Абадоўскага.

**Валадар ЦУРПАНАЎ,**
**старшыня**
**праўленьня Цэнтра**

***Ад рэдакцыі:*** **"Права на волю" будзе сачыць за тым, як далей будуць разгортвацца падзеі вакол праваабаронцы Сяргея Абадоўскага і ягоных сыноў, і інфармаваць пра гэта сваіх чытачоў. Нагадаем, што адзін з сыноў С.Абадоўскага, Янка, пасьля доўгага перасьледу ўладаў за ўдзел у акцыях апазіцыі, папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы і атрымаў яго...**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)




*У лістападзе* Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь адмяніў рашэньне суда Савецкага раёну г. Мінску аб адміністратыўным арышце актывіста "Маладога фронту" 20-гадовага студэнта-гісторыка Яўгена Афнагеля у сувязі з адсутнасьцю складу адміністратыўнага правапарушэньня. Я. Афнагель зьяўляўся адным з заяўляльнікаў "Маршу свабоды" 17 кастрычніка. Аднак пасьля рашэньня Мінгарвыканкаму аб забароне шэсьця і перанясеньня мітынгу на плошчу Бангалор напісаў заяву аб адмове ад удзелу ў арганізацыі акцыі. Судзьдзя Іна Шэйка не прыняла да ўвагі гэтую акалічнасьць і прыцягнула Я.Афнагеля да адміністратыўнай адказнасьці. Я.Афнагель адсядзеў 15 сутак у прыёмніку-разьмеркавальніку, адкуль адзін раз быў дастаўлены ў 9-ую клінічную бальніцу для аказаньня экстрэнай медыцынскай дапамогі.

*31 лістапада* міністр замежных справаў Нарвегіі Кнут Волебек, які зараз зьяўляецца дзеючым старшынём АБСЕ, зрабіў сьпецыяльную заяву па Беларусі, у якой вітае вызваленьне з папярэдняга зьняволеньня былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра і выказвае спадзяваньне на неадкладнае спыненьне сьледчых дзеяньняў у дачыненьні да Міхаіла Чыгіра, а таксама настойвае на правядзеньні адкрытага суда ў выпадку судовага разгляду гэтай справы.

*31 лістапада* гарвыканкам г. Гродна адмовіў гарадзенскай арганізацыі "Малады фронт" у правядзеньні акцыі "Моладзь — супраць СНІДу". Гарвыканкам спаслаўся на неадпаведнасьць заяўкі п.5 закону "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні ў Рэспубліцы Беларусь". Гарадзенскія ўлады перакананыя: змагацца са СНІДам можна толькі медыцынскімі сродкамі.

*1 сьнежня* крымінальная справа былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра была перададзеная ў гарадзкі суд Мінска. Акрамя Юліі Чыгір (жонкі) абараняць Міхаіла Чыгіра будзе адвакат Сяргей Лепеш. Першае пасяджэньне суда прызначанае на 27 сьнежня.

*У сьнежні* былому дырэктару Беларускага металургічнага заводу 62-х гадоваму Юрыю Феактыставу прад'яўленае канчатковае абвінавачаньне — злоўжываньне службовым становішчам (Арт. 166 Крымінальнага Кодэксу РБ). Перад гэтым Ю.Феактыстаў праходзіў курс лячэньня ў Мінскім інстытуце кардыялогіі, адкуль быў выпісаны, атрымаўшы групу інваліднасьці.

*6 сьнежня* ўвечары ў Гродна міліцыяй быў затрыманы студэнт Вадзім Саранчукоў. Ён быў абвінавачаны ў тым, што на шыбе тралейбуса зрабіў антыпрэзідэнцкі надпіс. У РАУСе Ленінскага раёну г.Гародні В.Саранчукоў правёў ноч (яму нават не далі патэлефанаваць дадому), што зьяўляецца парушэньнем закону. *8 сьнежня* над В.Саранчуковым адбыўся суд, ён быў аштрафаваны на адзін мінімальны заробак.

*8 снежня* ў 11 гадзінаў раніцы ў Мінску быў перакрыты прасьпект Францыска Скарыны. Гэта была акцыя пратэсту супраць падпісаньня дамовы паміж Ельцыным і Лукашэнкам аб утварэньні Саюзу Расіі і Беларусі. У гэты ж дзень у 17.00 у раёне плошчы Якуба Коласа прасьпект быў зноў перакрыты. Праз некалькі хвілінаў супрацоўнікі АМАПу выціснулі ўдзельнікаў акцыі з праезнай часткі. Група моладзі ў знак пратэсту спаліла расійскі сьцяг. Пасьля дэманстранты рушылі са сьцягамі і антыінтэграцыйнымі лозунгамі да Кастрычніцкай плошчы. Каля цырку ўдзельнікі акцыі паспрабавалі яшчэ раз перакрыць прасьпект. Асобы ў цывільным пачалі затрымліваць дэманстрантаў.

Былі затрыманыя:

1. *Раманаў Мікалай*;
2. *Сіўчык Вячаслаў*;
3. *Адамовіч Славамір*;
4. *Аляксандраў Уладзімір*;
5. *Петручук Ігнат*;
6. *Гурава Ірына;*
7. *Кульчанка Сьцяпан.*

Былі затрыманыя і адпушчаныя:

1. *Шчукін Валеры;*
2. *Васьковіч Зьміцер;*
3. *Васілевіч Натальля;*
4. *Касьяровіч Зьміцер.*

*9 снежня* ў судзе Савецкага раёну пачалося судовае паседжаньне, ў якім планавалася разгледзець справы затрыманых 8 сьнежня. Перад самым пачаткам суда міліцыянт пачаў выганяць з залы суда грамадзкіх абаронцаў і назіральнікаў ПЦ "Вясна". Праваабаронца з "Вясны" Барыс Гюнтэр запатрабаваў ад судзьдзяў Іны Шэйка і Руслана Казадаева спыніць супрацьпраўныя дзеяньні міліцыянта, а міліцыянта папрасіў прадставіцца. У выніку прадстаўнікі ПЦ "Вясна" былі дапушчаны ў залы судовых паседжаньняў. Калі судзьдзя Шэйка пачала судовы працэс супраць В.Сіўчыка на рускай мове, В. Сіўчык запатрабаваў ад судзьдзі весьці працэс на беларускай мове. Судзьдзя заявіла " На этом языке я не хочу и не буду вести процесс", а падпалкоўнік міліцыі дадаў "На этом деревенском языке нечего говорить там, где все говорят по русски". Барыс Гюнтэр нагадаў судзьдзі і мі-



Мінск, 8 сьнежня, ранак і вечар...

ліцыянтам, што паводле заканадаўства за абразу дзяржаўнай мовы дзяржслужачыя нясуць адміністратыўную адказнасьць — штраф ад 5 да 10 мінімальных заробкаў.

*10 снежня* ў 16.00 грамадзяне Беларусі вырашылі перадаць Лукашэнку свае петыцыі, лісты і патрабаваньні. Усе падыходы да рэзідэнцыі былі блакаваны некалькімі шэрагамі міліцыянтаў, якія не прапускалі грамадзянаў да будынка. Кіраўнік Праваабарончага Цэнтру "Вясна" А.Бяляцкі і супрацоўнік Цэнтру У. Падгол прарваліся праз шэрагі міліцыянтаў і ўкінулі ліст у прызначаную дзеля гэтага скрынку. Пазней гэта ўдалося зрабіць С.Багданкевічу і М.Статкевічу.

*10, 13 і 14 сьнежня* адбыліся суды над грамадзянамі, якія 8 сьнежня ў знак пратэсту супраць падпісаньня саюзнай дамовы паміж Беларусьсю і Расіяй перакрылі праспект Францыска Скарыны.

У судзе Савецкага раёну г. Мінску былі вынесеныя наступныя прысуды:

1. *Раманаў Мікалай* — штраф – 29 млн. руб.;
2. *Сіўчык Вячаслаў* — штраф – 217 млн. руб. (300 даляраў ЗША);
3. *Адамовіч Славамір* (суд перанесены на няпэўны тэрмін, у сувязі з тым, што пратаколы затрыманьня былі складзеныя няправільна. С.Адамовічу інкрымінавалі Арт.167.1, ч. 2 (неаднаразовы ўдзел у несакцыянаваных мітынгах, шэсцях, пікетах), хаця ў С.Адамовіча было першае затрыманьне сёлета). Справа накіраваная на дапрацоўку;
4. *Аляксандраў Уладзімір* (папярэджаньне);
5. *Петручук Ігнат* (папярэджаньне);
6. *Гурава Ірына* (папярэджаньне);
7. *Кульчанка Сьцяпан* — штраф – 217 млн. руб.

Супрацоўнікі міліцыі, якія выступалі на судах у якасьці сьведкаў, давалі ілжывыя сьведчаньні, што людзі ішлі па праезнай частцы і перашкаджалі руху транспарту (у той час, як калона рухалася па ходніку), што яны затрымлівалі людзей на плошчы Якуба Коласа, у той час як большасьць была затрыманая на плошчы Перамогі. Нягледзячы на гэта, судзьдзя прызнала затрыманых вінаватымі ў зьдзяйсьненьні адміністратыўнага правапарушэньня.

**Інфармацыйны аддзел «Вясны»**

# Валеры Шчукін — Ганаровы сябар Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

Валеры Шчукін актыўна абараняе правы грамадзянаў на судовых працэсах у выпадках, калі ўлады імкнуцца выкарыстаць суд у якасьці рэпрэсіўнага апарату супраць іншадумцаў і ўдзельнікаў апазіцыі. Валеры Аляксеевіч прапагандуе дэмакратычныя каштоўнасьці адкрытага грамадзтва ў прэсе, фармуючы ў грамадзкай супольнасьці прыярытэты права.

В.Шчукін зьяўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь 13-га скліканьня, сакратаром парламенцкай камісіі па нацыянальнай бясьпецы, абароне і барацьбе са злачыннасьцю. Як актыўны ўдзельнік апазіцыйных акцыяў В.Шчукін пастаянна падвяргаецца рэпрэсіям з боку ўладаў, якія хочуць запалохаць Валерыя Аляксеевіча і перашкаджаюць ягонай грамадзкай праваабарончай дзейнасьці.



### I. Адміністратыўныя суды супраць Валерыя Шчукіна:

1. 13.05.97г. – Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя А.Брагін) — 22,5 млн. руб. (847$);
2. 30.05.97 г. — Кастрычніцкі суд г.Мінску (судзьдзя М.Рыштоўская) — 1 млн. руб. (38$);
3. 14.07.97 г. — Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя Т.Злобіч) — 23 млн.руб. (852$);
4. 24.09.97 г. — Ленінскі суд г.Мінску (судзьдзя Т.Жулкоўская) — 30 млн.руб. (1092$);
5. 22.12.97 г. — Савецкі суд г.Мінску (судзьдзя Л.Таманаў) — 0,4 млн.руб. (13$);
6. 23.01.98 г. — Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя А.Барысёнак) — 1,5 млн.руб. (49$);
7. 03.07.98 г. — Маскоўскі суд г.Мінску (судзьдзя Ж.Лявіцкая) — 5 млн.руб. (138$);
8. 29.01.99 Г. — Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя А.Барысёнак) — 75 млн. руб. (701$).

*Разам:* за тры гады, па стану на 1 сьнежня 1999 г., накладзена судамі штрафаў — 158,4 млн.руб. (3725$).

*У тым ліку:*

— за 1997 год 5 разоў — 76,9 млн.руб. (2842$);
— за 1998 год 2 разы — 6,5 млн.руб. (182$);
— за 1999 год1 раз — 75 млн.руб. (701$).

### II. Адміністратыўныя арышты:

1. 29.12.97 г. — Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя А.Барысёнак) — 10 сутак;
2. 15.06.98 г. — Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя А.Барысёнак) — 10 сутак;
3. 07.12.98 г. — Партызанскі суд г.Мінску (судзьдзя Н.Трубнікаў) — 15 сутак;
4. 11.01.99 . — Савецкі суд г.Мінску (судзьдзя А.Ганчарык) — 10 сутак
5. 16.02.99 г. — Цэнтральны суд г.Мінску (судзьдзя А.Барысёнак) — 3 сутак;
6. 05.05.99 г. — Савецкі суд г.Мінску (судзьдзя І.Шэйка) — 5 сутак;
7. 22.07.99 — Ленінскі суд г.Мінску (судзьдзя Д.Жданок) — 15 сутак, (з якіх адбыта за кратамі восем).

*Разам:* за тры гады, па стану на 1 сьнежня 1999 г., прызначана судамі адміністратыўных арыштаў — 68 сутак.

*У тым ліку:*

— за 1997 год 1 арышт — 10 сутак;
— за 1998 год 2 арышты — 25 сутак;
— за 1999 год 4 арышты — 33 сутак.

Праведзена ў зьняволеньні, у агульнай колькасьці — 61 суткі.

### III. Крымінальныя арышты:

1. 19.10.99 г. — пракуратура г.Мінску (нам. пракурора Л.Літвінюк) — 2 месяцы (61 суткі) арышту.

Фактычна прабыў у зьняволеньні па стану на 1 сьнежня 1999 г. — 13 сутак.

Агульны тэрмін аб'яўленых арыштаў — 129 сутак, фактычны тэрмін незаконнага пазбаўленьня волі — 74 суткі.

### IV. Афіцыйныя пракурорскія папярэджаньні

1. 18.03.99 г. — пракуратура Рэспублікі Беларусь (А.Лазута, старшы пракурор адзьдзелу па нагляду за расьследваньнем крымінальных справаў і выкананьнем законаў па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй) — за асьвятленьне ў друку тэмы катаваньняў у паліцэйскіх структурах Беларусі.

### V. Агульная колькасьць фактаў перасьледу

Напрыцягу трох гадоў, без санкцыяў парламенту, патрапляў пад адміністратыўны, пракурорскі і крымінальны перасьлед за праваабарончую, палітычную, парламенцкую і журналісцкую дзейнасьць — 17 разоў.

З іх:

— у 1997 годзе — 6 разоў;
— у 1998 годзе — 4 разы;
— у 1999 годзе — 7 разоў.

Усяго, у 1997—1999 гадах, у парушэньне парламенцкага імунітэту, на падставе нібыта зьдзейсьненага напярэдадні адміністратыўнага правапарушэньня, не выпісваючы позвы пра яўку ў міліцыю, хапалі на вуліцы, выцягвалі з ложку, затрымлівалі на працы ў офісе; гвалтоўна дастаўлялі ў міліцэйскія пастарункі, дапытвалі і складалі пратаколы (у тым ліку ў начны час) — 25 разоў.

Падвяргалі фізічным катаваньням — 5 разоў, (у Цэнтральным, Ленінскім і Савецкім райаддзелах міліцыі г.Мінску).

Выкрадалі са шпіталю ў час знаходжаньня ў ім на стацыянарным лячэньні. Група міліцыянтаў з Савецкага РАУС выкрала В.Шчукіна з 9-й клінічнай бальніцы г. Мінску перад самым Новым годам (31.12.98г.) і літаральна цягнула да судзьдзі дзеля таго, каб пасадзіць за краты менавіта перад Новым годам.

**Рада Праваабарончага Цэнтру "Вясна" прыняла Валерыя Аляксеевіча Шчукіна ў шэрагі Ганаровых сяброў ПЦ "Вясна".**

Алесь БЯЛЯЦКІ

# Усяго толькі суткі,

## альбо Рэпартаж з міліцэйскае "дзяжуркі"



У «дзяжурку» прыводзяць маленькага, кашлаценькага, завэдзганага мужчынку. Той адразу ж пачынае грукаць у дзьверы, нечага дабівацца. «Васілеўскі, чаго ты хочаш? — пытаецца дзяжурны. «У прыбіральню трэба! Старшой, пусьці!» — крычыць мужчынка. Дзяжурны адводзіць яго. Праз пятнаццаць хвілінаў зноў чуецца грукат у дзьверы камеры. «Старшой, адчыні!» – просіць мужчынка. «Васілеўскі, не бычыся!» — у адказ крычыць дзяжурны. «Вядзіце мяне да маёра Белага!» – патрабуе Васілеўскі. «Ён ужо два гады як на пенсіі, — адказвае дзяжурны,— будзеш шумець, ластаўку зраблю!» Васілеўскі «ластаўкі» баіцца і таму адразу супакойваецца.

А вось прывялі п'янага хлопца гадоў трыццаці. Ён хутка прыходзіць ў сябе і пачынае «касіць». «Начальнік, жывот рэжа, не магу! Язва ў мяне». «Косіш, сяр... , — робіць заўвагу дзяжурны,— ня плач. Зараз выклічу «хуткую», яны табе таблетку дадуць...»

Прыязджае «хуткая». «Кладзіся», — загадвае доктарка. Хлопец павольна, скрывіўшыся, кладзецца. Задзірае куртку — увесь ягоны жывот расьпісаны мастацкай татуіроўкай. «Моцна баліць», – скардзіцца хлопец. «Ну і дух ад цябе ідзе, — заўважае доктарка, — меней гарэлку жлукціць трэба! Я калі вып'ю, у мяне таксама галава баліць», – пасьміхаецца доктарка. Яна мацае жывот хлопца. «Во, якая карцінка, — заўважае дзяжурны, які паглядае на жывот хлопца. – А ну, пакажы, што там вышэй». «Потым»,— адказвае той. «Дайце яму ўкольчык», — просіць дзяжурны ў доктаркі. «Ня маю права,— адказвае яна. — Мы жываты не абязбольваем». Хлопец чуйна прыслухоўваецца да таго, як вырашаецца ягоны лёс. «Я яго не забірала б, — кажа доктарка медсястры,— але і адказнасьць на сябе браць не хачу, калі раптам што здарыцца, таму павязем...» Дзяжурны відочна зьдзіўлены такім паваротам падзеяў. А хлопец працягвае «касіць» — з цяжкасьцю спаўзае з лавы. Яму даюць у суправаджэньне двух маладых «операў» – у скуранках і вязаных шапках. «Прывязеце, — аддае загад дзяжурны, — руку да біла ложка, а нагу да батарэі прышпіліце» — і дае ім дзьве пары кайданкоў. «Касцу», мабыць, пагражае крымінальны артыкул.

*(Працяг. Пачатак у №22)*

Невысокі чарнявы капітан час ад часу падбягае да мяне і пытаецца: «Ну што, ці ж гэта не дурдом?» «А чаго ж, — адказваю я, — хто на што вучыўся».

Час ад часу прыходзяць зьмены міліцыянтаў, здаюць зброю ці наадварот, узбройваюцца. Іх надзіва шмат. На вуліцы ідзе сьнег. У міліцыянтаў засьнежаныя шапкі і боты.

Мяне вядуць да начальніка райаддзелу. Гэта невысокі, таўставаты, вусаты мужчына. Сядзіць за сталом, на якім маленькі чырвона-зялёны сьцяжок. На сьцяне вісіць глянцавы, бліскучы Лукашэнка. Жоўтае сьвятло адбіваецца акурат ад ягонае лысіны. Начальнік апрануты ў цывільнае. З цікавасьцю разглядае мяне і падпісвае складзеныя пратаколы. «Ці ёсьць якія пытаньні?» – зьвяртаецца ён. «Ёсьць просьба, — адказваю, — выпішыце позву ў суд і адпусьціце мяне дадому». «А вы зноў будзеце ад нас хавацца, — пасьміхаецца начальнік, — не, не магу». «А хіба я ад вас хаваўся? Хіба вы мне хоць адну позву прысылалі, перадавалі ці што?» – пытаюся я. Начальнік недаверліва круціць галавой, і мяне зноў адводзяць у «абязьяньнік».

Дзяжурныя нешта ажыўлена абмяркоўваюць. «Трупавозка ня хоча забіраць, — абураецца старэйшы лейтэнант, — кажуць, па ім паразіты так і скачуць... Маўляў, пакуль не прадызінфікуеце, браць ня будзем. А ён ужо тры гадзіны ў пад'езьдзе ляжыць...» Я зразумеў, што размова ідзе пра нейкага памерлага бамжа. Урэшце дзяжурныя выклікалі двух маладых апаратыўнікаў і паслалі іх на машыне на санэпідстанцыю па дыхлафос.

У гэты час у дзяжурцы зьявіўся малады мент з хлопцам-здаравяком. Хлопца пасадзілі недалёка ад мяне, а мент перадаў пратакол дзяжурнаму. Той аднекваўся, не хацеў браць: «Нашто мне пратакол, я яго пад запіс прыйму». Мент настояў, а затым сыйшоў. «За што ж ён цябе затрымаў?» — спытаўся старэйшы лейтэнант. «А я ведаю? — адказаў хлопец. — Пэўна, на глебе асабістай непрыязі. Я студэнт, вучуся на пятым курсе, а ён сямейны, курсант, жыве ў нашым інтэрнаце. З раніцы мы з сябрам выпілі на дваіх дзесяць пляшак піва, бо ўчора быў Дзень студэнта, пахмяліліся. Але ж гэта было даўно. Цяпер я цьвярозы. А ён са сваім братам завёў мяне ў спортзалу і пачаў біць. Я не адказваў, хаця калі б мазануў, дык абодвух бы там вырубіў. А ён выклікаў міліцыю і прывёў мяне сюды. «Добра, студэнт, — старэйшы лейтэнант падыйшоў да хлопца. – За столькі гадоў п'янага ад цьвярозага я адрозьніваць навучыўся. Нешта ты сапраўды да п'янага не падобны...» «А я і ня п'яны, таварыш палкоўнік, — горача падтрымаў яго студэнт. «Ды не палкоўнік я», — засаромеўся дзяжурны. «Дык будзеце ім, — адказаў студэнт, — а я ж дружыньнік вашага раёну, вось мае корачкі», — студэнт палез у кішэню і дастаў нейкую паперчыну.

Тыльныя дзьверы ў дзяжурцы адчыніліся і адтуль выйшаў чарнявы капітан. «Дызінфекцыя зачынена, дыхлафосу не дасталі, — паскардзіўся ён, — паеду дадому, у мяне недзе балончык ёсьць». «Заедзьце ў гарадзьдзел і вазьміце мех заадно», — параіў старэйшы лейтэнант. Капітан выйшаў.

Па рацыі перадалі, што на плошчы Якуба Коласа сабраліся дзьве групы, паміж якімі ідзе бойка. Дзяжурны паслаў туды машыну. Неўзабаве прывезьлі аднаго маладзёна, п'янага і з разьбітымі грыбамі. «Ну, а ты як сюды патрапіў?», — спытаўся ў яго дзяжурны. «Дык Дзень студэнта ж...», – адказаў той. «Дзень студэнта ўчора быў», — паправіў яго міліцыянт. «Так», — пагадзіўся студэнт. «На якім курсе?» – дзяжурны пачаў запісваць у сваю кнігу. «На пятым», — адказаў хлопец, з цяжкасьцю варочаючы языком. «Часова прапісаны?» — працягваў задаваць пытаньні міліцыянт. «Так, а жыву ў Пінску. Прозьвішча маё Палішчук».

Хлопец сядзеў, хістаючыся, да яго паступова даходзіла, куды ён патрапіў. Ён пачаў плакаць і прасіцца: «Айцы, дарагія, выпусьціце мяне!» «Сядзі, цьверазей, – адказаў яму дзяжурны, — выпусьціш цябе, дык ты яшчэ ўваалішся куды і замерзьнеш». Хлопец настойліва прасіўся: «Я вам манітор кампутарны адрамантую. Дзень — і манітор гатовы. Ці дайце мне якую-небудзь работу, толькі выпусьціце мяне!» Дзяжурны пісаў, не зьвяртаючы на яго ўвагі.

*(Працяг будзе)*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:Vaisna 96@open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*